# EXLIBRIS'Ъ А. ТЫЧЫНЫ



БЕЛАРУСКАЕ ТАВАРЫСТВА БІБЛІОФІЛАЎ

Ал. ШЛЮБСКІ

# Exlibris'ы А. ТЫЧЫНЫ



МЕНСК
1928

Беларускі exlibris зарадзіўся ў дарэволюцыйны час. Нам вядомы наступныя exlibris'ы гэтае пары: 1) знак беларускага бібліофіла Б. І. Эпімаха-Шыпілы канца XIX ст. з радавым гэрбам; 2) знак беларускага бібліофіла і бібліографа Р. Земкевіча—колізэй і эгіпецкія піраміды; 3) знак беларускага грамадзкага дзеяча і вучонага В. Ластоўскага 1912 г.—паліца з кніжкамі і ініцыяламі: „В. Л."; 4) знак беларускага поэты А. Прушынскага—лацінскія ініцыялы: „А. Р." з орнамэнтам наўкола. Але гэта былі надта рэдкія і нявыразныя спробы ўжываньня беларускага exlibris'у; уся-ж маса exlibris'аў на Беларусі была або польскай—у польскіх паноў, якія жылі на Беларусі, або расійскай—у тагачасных расійскіх установах на Беларусі. І толькі ў цяперашні час, пры шырокім узросьце і разьвіцьці нацыянальных культур, цікавасьць да exlibris'у ў БССР становіцца больш выразнай; exlibris пачынае шырока распаўсюджвацца, захапляючы ўсё большыя колы беларускага грамадзянства; праўда водзыў, які, у сувязі з гэтым, выказаў вядомы расійскі поэта С. Гарадзецкі: „нужно отметить повальное увлечение белорусской интеллигенции экслибрисами, иногда очень интересными" *(С. Городецкий,*

Культура Белоруси—„Известия Ц.И.К. С.С.С.Р.“, 1927, № 58)—трэба лічыць крыху перавялічаным.

Зацікаўленасьць кнігай наогул і exlibris‘ам у прыватнасьці выклікала, між іншім, заснаваньне Беларускага Т-ва Бібліофілаў, а таксама зьяўленьне даволі значнага, для пачатку, ліку exlibris‘аў, над якімі працуюць беларускія мастакі Тычына, Мінін, Лебедзева, Юдовін, Грубэ і Гуткоўскі.

Сучаснае адраджэньне беларускае культуры адбіваецца і на беларускім exlibris‘е, якому прыдаюцца нацыянальныя формы ня толькі надпісамі, але зьместам і ідэяй малюнку; так, напр., знак этнографічнага аддзелу бібліотэкі А. Шлюбскага (знак працы мастака Мініна) дае тыпы беларусаў з іх нацыянальнымі музычнымі прыладамі (знак апублікован і апісан М. Касьпяровічам у арт.: Краязнаўства ў сучаснай графіцы, „Наш Край“, 1926 № 12); знак Цэнтральнага Бюро Краязнаўства (працы мастака П. Гуткоўскага) мае краязнаўчыя элемэнты—менскую вежу (гл. ibidem); знак М. Касьпяровіча (знак працы Мініна) мае беларускія старадаўнія орнамэнты (гл. ibidem) і г. д.

Гэтае першае выданьне аб беларускім exlibris‘е, якое датычыць прац аднаго толькі мастака Анатоля Тычыны, мае на мэце ня крытычны агляд творчасьці мастака, а выключна—мэты *рэгістрацыйна-каталёгізацыйныя*, каб дапамагчы будучым дасьледчыкам беларускага exlibris‘у хутчэй і лягчэй падабраць матар‘ял і разабрацца ў ім.

Апісаньне exlibris'аў зроблена паводле наступных пунктаў: 1) весткі аб уласьніку і яго бібліотэцы; 2) апісаньне знаку ў меры, якая патрэбна для яго ўразуменьня. Даныя аб памеры, формаце, колеры друку, надпісах і падрабязговым апісаньні знакаў не даюцца, замест чаго самыя exlibris'ы зьмяшчаюцца наклейкамі ў натуральную велічыню.

Знакі №№ 1-6 надрукаваны ў Менску ў 1926 г. на белай (500 паасобнікаў), жоўтай (25 п.), блакітнай (25 п.), зялёнай (25 п.) і сьветла-чырвонай (25 п.) паперы. Знакі №№ 7-16 укл. надрукаваны там сама ў 1927 г. на белай (350 п.), жоўтай (50 п.), блакітнай (25 п.), сьветла-зялёнай (25 п.), сьветла-чырвонай (25 п.), і цёмна-чырвонай (25 п.) паперы.

Жыцьцярыс мастака наступны. Месцам нараджэньня Тычыны Анатоля Мікалаевіча зьяўляецца Шавельскі павет, б. Ковенскае губ. дзе ён радзіўся ў беларускай сям'і ў 1897 г. У свой час (1910 г.) вялікі ўплыў у сэнсе разьвіцьця мастацкай працы на А. М. зрабіў расійскі мастак Савасьцьянаў. У 1912-15 г.г. А. М. працуе ў мастацкай школе г. Пензы, якую ня скончыў з прычыны прызыву ў армію; далей ён працуе ў студыі акад. Кліменьцьева ў Омску і там сама на мастацкім аддзяленьні Працоўнага Інстытуту і ў шэрагу іншых мастакоў. Апрача графікі, якой А. М. заняўся пад уплывам мастака У. К. Куртукова (каля 40 кніжных вокладак і аздобы ў часопісах: „Наш Край“, „Беларускі Піонэр“ і інш.) ён шмат працаваў у галіне

тэатральнага малярства ў Омску ў 1919-1920 г.г. (поўныя дэкарацыі да „Князя Игоря“, „Потонувшего Колокола“, „Анатэмы“, „Назара Стадолі“ і частковыя да іншых пастановак).

У галіне exlibris'а А. М. пачаў працаваць з 1923 г., першыя спробы засталіся проектамі; у гэтай кніжцы даюцца знакі 1926-27 гадоў.

Die ersten Keime der weissruthenischen Exlibris erschienen noch in der Vor-Revolution'schen Periode.

Bekannt sind uns folgende Exlibris dieses Periode: 1) das Zeichen des weissruthenischen Bücherfreundes B. I. Epimach-Szypiłło, Ende des XIX Jh., mit seinem Stammwappen; 2) das Zeichen des weissruthenischen Bibliophilen und Bibliographen R. Ziemkievicz—das Koliseum und die ägyptischen Pyramiden; 3) das Zeichen des weissruthenischen Publizisten und Gelehrten W. Lastowski, 1912,—eine Keule mit Büchern u. den Anfangsbuchstaben: „V. L."; 4) das Zeichen des weissruthenischen Dichters A. Pruszynski—die lateinischen Initialen: „A. P." mit Ornamenten ringsherum.

Aber das waren nur sehr seltene, wenig ausdrucksvolle Lebensproben des weissruthenischen Exlibris; die ganze Masse der Exlibris in Weissruthenien war entweder polnisch—bei den polnischen Herren, welche in Weissruthenien lebten, oder russisch—bei den damaligen russischen Kulturanstalten Weissrutheniens. Und nur bei dem gegenwärtigen Wuchse und bei der Entwickelung der Nationalkulturen wird das Interesse der Weissruthenen zu den Exlibris ausdrücklicher, die Exlibris verbreiten sich immer mehr,

umfassen immer grössere Kreise der weissruthenischen Gesellschaft; doch muss man die diesbezügliche Äusserung des bekannten russischen Dichters S. Horodziecki für etwas übertrieben halten: „bemerkenswert ist der allgemeine Hang der weissruthenischen Intelligenz zu den manchmal auch wirklich sehr interessanten Exlibris“ (S. Horodziecki, Weissruthenien's Kultur, „Isvestija“ 1927, № 58).

Das Interesse für Bücher überhaupt und Exlibris im Einzelnen hatte zur Folge die Gründung einer Gesellschaft von weissruthenischen Bibliophilen und das Erscheinen einer für den Anfang ziemlich beträchtigen Anzahl von Exlibris, an deren Verfertigung viele weissruthenischen Künstler: Tyczyna, Minin, Lebedziewa, Judowin, Grube und Gutkowski arbeiten.

Das gegenwärtige Wiederaufleben der weissruthenischen Kultur spiegelt sich in den weissruthenischen Exlibris wieder, welche nicht nur nationale Formen in den Inschriften, sondern auch im Inhalt und der Idee der Zeichnung bekommen; so z. B. das Zeichen der etnographischen Abteilung der Bibliothek von A. Szlubski (Arbeit des Künstlers Minin) giebt uns Typen von Weissruthenen mit ihren musikalischen Instrumenten (dieses Zeichen ist von M. Kaśpierowicz in seinem Artikel: „Краязнаўства ў сучаснай графіцы“, Наш Край, 1926 г., № 12, veröffentlicht und beschrieben); das Zeichen des Zentral-Büro der Heimatkunde (Arbeit des Künstlers P. Gutkowski) hat auch landeskundige Elemente: einen Turm von Mensk (s. ibid.); das Zeichen von Kaśpierovicz (Arbeit

von Minin) hat weissruthenische altertümliche Ornamente (s. ibid.) u. s. w.

Diese erste Aufgabe über weissruthenische Exlibris, welche nur die Arbeiten eines Künstlers, Anatol Tyczyna, betrifft, stellt keinen kritischen Überblick der Arbeiten dieses Meisters dar, sondern verfolgt nur registratorisch-katalogische Ziele um den künftigen Forschern des weissruthenischen Exlibris zu erleichtern das Material anzusammeln und sich darin zurecht zufinden.

Die Beschreibung der Exlibris wird nach folgenden Punkten gemacht: 1) Angaben über den Besitzer und dessen Bibliothek; 2) Die Beschreibung des Zeichens, insofern solche zu dessen Verständniss erforderlich ist. Die Angaben über Grösse, Format, Farbendruck, Inschriften und genaue Beschreibung des Zeichens werden nicht gegeben, statt dessen werden die Exlibris selbst in Naturgrösse aufgeklebt.

Die Zeichen №№ 1—6 sind in Mensk im J. 1926 auf weissem (500 Ex.), gelbem (25 Ex.), blauem (25 Ex.), grünem (25 Ex.) und hellrotem Papier (25 Ex.) gedruckt. Die Zeichen №№ 7-16 sind im Jahre 1927 auf weissem (350 Ex.), gelbem (50 Ex.), blauem (25 Ex.), hellgrünem (25 Ex.), hellrotem (25 Ex.) u. dunkelrotem Papier (25 Ex.) gedrukt.

Die Biographie des Künstlers ist folgende. Geburtsort des Anatol M. Tyczyna ist der Schawel'sche Kreis des ehemaligen Kownaer Gouvernement, wo er in einer weissruthenischen Familie im Jahre 1897 geboren wurde. Einen grossen Einfluss auf die Entwi-

ckelung des Künstlersinnes bei A. M. machte seinerzeit (1910) der russische Künstler Savostjanow. Von 1912-15 arbeitete A. M. in der Pensa'er Zeichenschule, welche er aber wegen Einberung zur Armee nicht beendete; ferner arbeitete er in der Studie des Akademiker's Klimentjew in Omsk, in der Kunstabteilung des Arbeiter-Instituts und noch bei verschiedenen anderen Künstlern. Äusser der graphischen Kunst, womit sich A. M. unter dem Einfluss des Künstlers J. K. Kurtukow beschäftigte, (circa 40 Umschläge und Vignetten in der Zeitschriften: „Наш Край", „Беларускі Піонэр" und andere), arbeitete er viel im Gebiete der Theatermalerei in Omsk von 1919-20 (alle Dekorationen zum „Fürst Igor", „Die versunkene Glocke", „Anathema", „Nazar Stodolia" und teilweise zu anderen Vorstellungen).

Im Gebiete der Exlibris begann A. M. von 1923 an zu arbeiten; seine ersten Versuche blieben Entwürfe; in dieser Broschüre sind die Zeichen von 1926-27 angeführt.

# БІБЛІОГРАФІЯ


1. Третья весенняя выставка... (О-ва художников и любителей изящных искусств Степного края). Омск, 1919.

2. Каталёг 1-й усебеларускай мастацкай выстаўкі. Менск, 1925.

3. Шчакаціхін, М., Мотывы краязнаўства ў нашым сучасным мастацтве („Наш Край“, Менск, 1926, № 2-3).

4. Касьпяровіч, М., Краязнаўства ў сучаснай графіцы (ibidem, № 12).

5. М. К[асьпяровіч], Беларускае мастацтва („Чырвоная Краіна“, Менск, 1927, № 1).

6. Касьпяровіч, М., Менск у графіцы А. М. Тычыны. („Чырвоны Сейбіт“, Менск, 1927, № 12).

7. Amtlicher Katalog der Internationalen Buchkunst Ausstellung, Leipzig 1927.

8. Каталёг 2-й усебеларускай мастацкай выстаўкі. Менск, 1927.

I.

Exlibris Чарнякоўскага Вячаслава Іванавіча (настаўнік сьпеваў, бібліотэка з нот); сілуэт рэгента хору ў часе кіраваньня апошнім.

Орыгінал туш'ю 84×65 м.м.

II.

Exlibris З а л у ц к а г а В. П.: старадаўняя брама на Ніжнім рынку м. Менску.

Орыгінал туш'ю 81×55.

III.

Exlibris Шчакаціхіна Міколы Міколавіча (профэсар Беларускага Дзяржаўнага Унівэрсытэту; аўтар шэрагу прац з гісторыі беларускага мастацтва; бібліотэка з літаратуры па гісторыі мастацтва): Вэнэра Мілёская, якая абвіта скорпіёнам; праз вакно відаць Менская ратуша; унізе з правага боку — монограма: „M. S.“, а з левага — злучэньне астрономічных знакаў Вэнэры і Скорпіёна. Аздобы на мотывы слуцкіх паясоў.

Знак апублікаваны і апісаны М. Касьпяровічам у „Нашым Краі“, 1926 г., № 12, стар. 41.

Орыгінал туш'ю 110×71.

IV.

Exlibris Палонскага Васіля Васільлевіча (доктар па дзіцячых хваробах; бібліотэка з мэдычнай літаратуры): хлопчык і мэдычныя эмблемы.

Орыгінал туш'ю 80 × 60.

V.

Exlibris Фёдарава Івана Міхайлавіча (пэдагог; бібліотэка з эспэранцкай літаратуры і географіі): першабытны чалавек і гмахі сучаснага гораду сымболізуюць пераход чалавека ад першабытнай культуры да сучаснасьці.

Орыгінал туш'ю 102 × 64.

VI.

Exlibris Брытцынай Натальлі Антонаўны (пэдагог: бібліотэка з літаратуры па прыродазнаўстве): сілуэт уласьніцы бібліотэкі, абкружаны рэчамі, якія зьвязаны з прыродазнаўствам.

Орыгінал тушʻю 103 × 63.

VII.

Exlibris Шлюбскай Ядвігі Адамаўны (сьпявачка; бібліотэка з нот): сілуэт жанчыны, якая грае на арфе.

Орыгінал туш'ю 90 × 62.

VIII.

Проект exlibris'у для літаратурнага гуртка „Колас“ — стылізаваны колас.

Орыгінал туш'ю 110 × 72.

IX.

Exlibris Тычыны Анатоля Міколавіча (мастак, гл. уступ): на фоне шашак—сымболе шляху ўласьніка, жанчына, якая абапіраецца аднэй рукой на чалавечы чэрап, а другой—на разьлітую бутэльку тушы.

Орыгінал туш'ю 45 × 92.

X.

Exlibris Мяжэнінай Ксэніі Мікалаевай (бібліотэка з бэлетрыстыкі): букет кветак, за ім цягнік, які ідзе да праменьняў сонца.

Орыгінал туш'ю 88 × 48.

XI.

Exlibris Касьпяровіча Міколы Іванавіча (беларускі краязнаўчы дзеяч; аўтар шэрагу прац па краязнаўстве; бібліотэка па беларусазнаўстве): карта Беларускай Савецкай Соцыялістычнай Рэспублікі, з левага боку літара „М“, якая азначае месца знаходжаньня сталіцы Беларусі Менску і адначасна зьяўляецца першай літарай імя ўласьніка знаку.

Орыгінал туш'ю 90 × 68.

XII.

Exlibris Вольскага Віталя Фрыдрыхавіча (супрацоўн. Наркамасьветы; дасьледуе гісторыю, быт і літаратуру беларускіх татар): знак прызначаны для кніг па ўсходазнаўстве і сымболізуе адраджэньне ўсходу.

Орыгінал туш‘ю 135 × 65.

XIII.

Exlibris П а л е е с а Аляксандра Давыдавіча (навуковы супрацоўнік Беларускага Дзяржаўнага Музэю; бібліотэка з літаратуры па яўрэязнаўстве): сэрна,—уасабленьне жыцьця,— нясецца міма яўрэйскіх сынагог і старых будынкаў — старога жыцьця—да сьвету і ведаў новага жыцьця.

Орыгінал туш'ю 98 X 76.

XIV.

Exlibris Папова Кастуся Хвёдарава (паляўнічы і доктар па дзіцячых хваробах; бібліотэка з доктарскай літаратуры): дзіцянё, мэдычныя эмблемы і паляўнічыя (сабака).

Орыгінал туш'ю 89 × 66.

XV.

Exlibris Фідроўскай Ганны Сьцяпанавай (пэдагог; бібліотэка з літаратуры па пэдагогіцы і філёзофіі): Фауст сядзіць за сталом.

Орыгінал туш'ю 102 × 62.

XVI.

Exlibris Зенчанкі Уладзімера Андрэевіча (пэдагог; бібліотэка з экономічна-гандлёвай літаратуры): дзьве статуі Мэркурага на фоне алеі парку.

Орыгінал туш'ю 76 × 102.

